

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець
у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №11 (136)
ЖНІВЕНЬ 2021 ГОДА


ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## АБЛАСНЫ СУД АДХІЛІЎ СКАРГУ

**20 жніўня Віцебскі абласны суд разгледзеў скаргу вядомага краязнаўцы і фотамастака Віктара Барысенкава. Ён абскардзіў рашэнне суддзі Уладзіміра Царыкава, які пакараў яго адміністрацыйным арыштам на 7 сутак за тры фотаздымкі часоў фашысцкай акупацыі, размешчаныя ў інтэрнэце. Суддзя трактаваў гэта як публічную дэманстрацыю нацысцкай сімволікі (ч.1 арт.19.10 КаАП).**

На разгляд скаргі Барысенкаў прыйшоў з асабістымі рэчамі, гатовы да таго, што яго возьмуць пад варту ў зале суду. «Барысенкаў прызнаны вінаватым у публічнай дэманстрацыі ў сацыяльнай сетцы «Вконтакте» у глабальнай сетцы Інтэрнэт нацысцкай сімволікі. У сваёй скарзе Барысенка ўказвае, што з пастановай аб накладанні спагнання нязгодны», – агучыла скаргу **суддзя Ірына Смалякова.** Віктар Барысенкаў патлумачыў суддзі, што апублікаваныя ім фотаздымкі маюць вялікую гістарычную каштоўнасць, і размясціў ён іх разам з іншымі фота таго перыяду, каб людзі мелі магчымасць убачыць, як выглядаў Віцебск падчас акупацыі. Іншай магчымасці зрабіць гэта ў віцяблянаў няма: большасць будынкаў і збудаванняў проста не захавалася. «Гэты альбом налічвае 2300 фатаграфій, прысвечаных акупацыі, і я думаў, што гэтыя фатаграфіі сведчаць пра гэты час. Яны ніякім чынам не прапагандуюць нацысцкую сімволіку. Яны паказваюць, якім Віцебск быў у той перыяд», – зуважыў на судзе Віктар Барысенкаў. Ён заявіў, што не з'яўляецца скінхэдам ці наагул прыхільнікам фашысцкай ідэалогіі.

«Я гэтыя свастыкі не маляваў і не падмалёўваў. Гэта свастыкі, якія трапілі ў кадр», – заявіў сп. Віктар.

Ён таксама патлумачыў, што дзве фатаграфіі, за якія яго асудзілі, былі зробленыя нямецкімі вайскоўцамі падчас акупацыі, а трэцяя, на якой савецкія салдаты ў руках трымаюць фашысцкі сцяг, была зробленая савецкім фатографам ва ўжо вызваленым горадзе.

Краязнаўца прынёс у суд шматлікія граматы ад розных навучальных і адукацыйных установаў, у якіх чытаў лекцыі па краязнаўстве. Тлумачыў, што займаецца адукацыйнай дзейнасцю, калекцыянуе і размяшчае ў агульны доступ гістарычныя фатаграфіі менавіта з гэтай мэтай. Падзяліўся, што да яго звяртаюцца многія гісторыкі і архітэктары па фотаздымкі, каб ведаць, як выглядаў горад у розных гістарычных эпохах. У ягонай калекцыі маюцца фота аж ад XIX-га стагоддзя.

Аднак усе довады навукоўца і фотамастака аказаліся марнымі. Суддзя Ірына Смалякова прыняла рашэнне пакінуць у сіле вырак суду Кастрычніцкага раёну Віцебску. Пасля абвяшчэння такога рашэння Віктар пацікавіўся, што яму рабіць далей і калі яго возьмуць пад варту. Супрацоўнікі суду адказалі, каб ён не турбаваўся – за ім прыйдуць, калі будзе трэба…

**Ян Сведка**

ЭКАЛОГІЯ

## ЗАВОД ЗАРАБОТАЕТ В ДВЕ СМЕНЫ

**Мусоросортировочный завод в Витебске с 1 сентября планирует перейти на работу в две смены для полной загрузки мощностей. Об этом сообщил начальник главного управления ЖКХ Витебского облисполкома Юрий Дядело.**

Завод начал работу в мае, на его строительство ушло Br38,3 млн. Мощности предприятия позволят сортировать 100 тыс. т отходов в год. Завод - часть регионального комплекса по сортировке и переработке твердых коммунальных отходов (ТКО), который будет обслуживать жителей областного центра, Витебского, Городокского, Шумилинского и Лиозненского районов. "Пока мусоросортировочный завод работает в одну смену. С 1 сентября планируется перейти на работу в две смены. Будет 100% загрузка мощности", - отметил Юрий Дядело. На заводе ведется полуавтоматическая сортировка смешанных коммунальных отходов, извлекаются вторичные материальные ресурсы, перерабатываются ПЭТ-бутылки и пластмассы. Образующаяся органическая часть отходов передается на площадку компостирования для последующего использования.

В Витебской области возле индивидуальных жилых домов установлены 62,3 тыс. контейнеров для раздельного сбора мусора. За полгода в 455 многоэтажках региона закрыли мусоропроводы. Начальник главного управления ЖКХ облисполкома рассказал, что за шесть месяцев в населенных пунктах области благоустроили 52 придомовые территории, установили 82 детские площадки, отремонтировали 89 тыс. кв.м уличной дорожной сети. Капитально отремонтировано 130,9 тыс. кв.м общей площади жилых домов. На этот год в график капремонта включены 366 объектов, по 60 из них работы завершены. В северном регионе за январь - июль запустили 24 станции обезжелезивания, 14 еще строятся. "Начата реализация инвестпроекта "Чистая вода в Витебской области", финансируемого за счет кредитных средств Европейского банка реконструкции и развития в сумме Br15,5 млн. Проект предусматривает строительство 80 объектов водоснабжения в сельских населенных пунктах с численностью более 200 жителей. В настоящее время заключены договоры, проектирование и строительство объектов планируют завершить до конца 2022 года. В этом году по инвестпроекту планируют ввести в эксплуатацию шесть станций обезжелезивания - в Витебском и Верхнедвинском районах", - рассказал Юрий Дядело. Продолжается модернизация систем водоснабжения в Орше и районе.

**«Витебские вести»**

*Чытайце сайт Віцебскага раёна:*
*http://vicebskreg.by*

ЗДАРЭННІ

## КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА ЗА ДЭЛЬТАЛЁТ

**У дачыненні да ўладальніка дэльталёту, які ўпаў у возера ў Віцебскім раёне, распачата крымінальная справа.**

Як паведамлялася раней, падчас палёту над возерам Добрына Віцебскага раёну, лятальны апарат які належыць 60-гадоваму мясцоваму жыхару, упаў з вышыні 10 метраў у ваду і пагрузіўся на дно. Мужчыне ўдалося выбрацца з вады, а пасажырцы - 39-гадовай жанчыне - выратавацца не ўдалося.

Дэльталёт выняты з возера і агледжаны следчымі. Прызначаны шэраг неабходных экспертыз. Канфіскавана дакументацыя. Устаноўлена, што мужчына не меў права кіравання паветраным суднам, таксама ў яго не было дазволу на выкарыстанне паветранай прасторы Рэспублікі Беларусь для ажыццяўлення палётаў і пасведчання пілота.

Следчым упраўленнем УСК па Віцебскай вобласці ў дачыненні да 60-гадовага жыхара Віцебскага раёна распачата крымінальная справа па ч.2 арт.314 КК(парушэнне правілаў бяспекі руху або эксплуатацыі паветранага транспарту асобай, абавязаным выконваць гэтыя правілы ў сілу выконваемай працы, што пацягнула за сабой смерць чалавека па неасцярожнасці). Ён дапытаны, да яго ўжытая мера працэсуальнага прымусу ў выглядзе абавязацельства аб яўцы.

**Якаў Дрозд**

КУР'ЁЗЫ

## ПРЫКРАЯ ПАМЫЛКА

**Калі выправяць прыкрую памылку на алеі вядомых людзей Віцебскага раёну?**

Два гады таму ў 2019 годзе ў Ноўцы адкрылі алею вядомых людзей Віцебскага раёну. Справа добрая, каб не прыкрая памылка. З неахайнасці ці недасведчанасці на бюсце і пад партрэтам батаніка і садавода Леаніда Нікольскага стаіць надпіс «Уладзімір Уладзіміравіч Адамаў». Памылку заўважыў віцебскі краязнаўца і сённяшні гаспадар сядзібы Адамава Максім Жукаў. «Бюст аказаўся невядома каго(бюст, відаць, рабілі з фота Нікольскага), а нібыта фота Адамава на стэндзе аказалася фатаграфіяй Нікольскага Леаніда Дзмітрыевіча, беларускага савецкага батаніка і садоўніка. Л. Д. Нікольскі нарадзіўся ў с. Пераваланчая ў Чарнігаўскай вобласці. У 1903 годзе скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію. У 1903-1911 гг. працаваў у Курскай губерніі ў вучылішчы жывапісу. З 1918 года выкладаў батаніку ў Віцебску. З 1924 году — дырэктар Віцебскага батанічнага саду.

Ну, вы разумееце ўзровень дзеячаў, якія праектавалі алею. Дызлайк і крапіву ім у штаны», — іранізуе ў канцы свайго каментару Жукаў.

На фота, якія ёсць можна адшукаць у інтэрнэце ў вольным доступе розніца паміж навукоўцамі відавочная.

**Якаў Дрозд**

УРАДЖАЙ

# РЭКОРДНЫЯ АБ'ЁМЫ СУСЕДЗЯЎ

**Украіна і Літва сабралі рэкордныя аб'ёмы збожжа. Ураджайнасць значна вышэйшая, чым у Беларусі. Украіна сабрала рэкордны за ўсю гісторыю краіны ўраджай пшаніцы (32 мільёны тон) і ячменю (больш за 10 млн тон).**

Рэкорд дасягнуты дзякуючы росту ўраджайнасці, якая вырасла проці мінулага года на 18 працэнтаў. Пра гэта паведаміла Міністэрства эканомікі Украіны. Сярэдняя ўраджайнасць пшаніцы ва Украіне склала 46,2 ц/га, ячменю — 41 ц/га. Прагназуецца, што разам з кукурузай Украіна збярэ сёлета 80—82 млн тон збожжа, што таксама стане рэкордам за ўсю гісторыю краіны. Дагэтуль максімальны быў 2019 год, калі ўраджай склаў 75 мільёнаў тон. Украіна ў апошнія гады стала другім па аб'ёме экспарцёрам збожжа ў свеце пасля ЗША. Рэкордна высокі ўраджай збожжавых і рапсу сабрала і Літва. Прагназуецца, што ўраджай збожжавых там складзе 6,93 млн тон і будзе на 0,1% большы, чым летась, і а ўраджай рапсу павінен павялічыцца на 7,7% да 1,04 млн тон. У Літве больш за ўсё пасеяна пшаніцы, ураджайнасць якой павінна скласці 56 ц/га. (У мінулым годзе ўраджайнасць была 54 ц/га.) Ураджай рапсу таксама павінен быць вышэйшы дзякуючы ўраджайнасці 37 ц/га (у Беларусі — 21,3 ц/га, ва Украіне — 27,5 ц/га). У Беларусі паводле звестак Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання намалочана 6,3 мільёна тон зерня пры сярэдняй ураджайнасці 30,5 ц/га (было 37,3 ц/га ў 2020 годзе). Мінсельгасхарч тлумачыць падзенне ўраджайнасці зацяжной халоднай вясной і рэкордна высокімі тэмпературамі летам. Цікава параўнаць сярэднюю ўраджайнасць збожжавых у суседніх рэгіёнах. Брэсцкая вобласць 34,8 ц/га; Валынская вобласць Украіны 48,8 ц/га; Ровенская вобласць Украіны 47,9 ц/га; Гомельская вобласць 23 ц/га; Жытомірская вобласць Украіны 50,2 ц/га; Кіеўская вобласць Украіны 48,9 ц/га; Чарнігаўская вобласць Украіны 52,1 ц/га; Гродзенская вобласць 36,1 ц/га; Літва 48,7 ц/га.

**«Наша ніва»**

НАДЗЁННАЕ

# ДОМ ЗА 29 РУБЛЕЙ?

**С сентября белорусы смогут купить дом в деревне за 29 рублей. Как это будет работать на практике и какие дома можно найти?**

В марте 2021 года был подписан указ №116 «Об отчуждении жилых домов в сельской местности и совершенствовании работы с пустующими домами», пишет для kp.by Ярослав Ляшевич. Предполагается, что реализация документа, который вступит в силу в конце сентября, позволит эффективнее решать проблему пустующих и ветхих домов, а желающим приобрести собственный дом осуществить задуманное. Приятная новость: в отдельных случаях цена такого жилья может составить всего одну базовую - на август 2021 года это 29 рублей.

Почему дома оказываются заброшенными? Данный документ далеко не первый, который регулирует порядок обращения с ветхими и пустующими домами. На данный момент продолжает действовать указ №357, принятый еще в 2018-м. Согласно его положениям, пустующими определяются те дома, в которых владельцы не жили на протяжении последних трех лет и никак не декларировали намерения о дальнейшем использовании строений. Как правило, такое происходит, когда недвижимость переходит по наследству, однако внезапно свалившейся фазендой новые владельцы распоряжаться не спешат. Чаще всего из-за отсутствия правоудостоверяющих документов. Заниматься их поиском или оформлением - задачка с несколькими неизвестными. Да и финансово процесс затратный.

Тогда вся тяжесть разборок с пустующим домом ложится на плечи местных властей. Доказательная база в таком случае собирается комиссией от местных властей. Специалисты проверяют строение на наличие коммунальной задолженности и прочие нюансы, по которым можно сделать вывод о заброшенности дома. Далее направляют заключение владельцу. Там же оповещают о возможном включении дома в реестр пустующих. Если через месяц после получения заказного письма в адрес местных властей не поступает уведомление о намерении восстановить или отремонтировать дома, местные власти подают иск в суд с целью признать недвижимость коммунальной. Процесс небыстрый. Потребуется немало времени на оценку строения, подготовку документов. И только в случае положительного решения Фемиды дом получится продать или снести. Последний вариант возможен, если строение признано ветхим и восстановить его невозможно. А если все сложилось удачно, недвижимость выставляется на продажу. В таком случае возможны два варианта: если заявок на дом несколько, то проводится аукцион. Желающий только один? Фазенду могут продать напрямую владельцу.

В целом механизм признания дома пустующим остается прежним. Однако есть несколько принципиальных моментов. Под действие указа подпадает только та недвижимость, которая построена до 8 мая 2003 года - даты вступления в силу закона «О государственной регистрации недвижимого имущества, прав на него и сделок с ним». А вот приобрести такое жилье в Минске или областных центрах не получится. Действие распространяется на территории сельсоветов, ПГТ и городов районного подчинения.

По новому акту местные власти и собственники ненужного жилья освобождаются от поиска либо изготовления документов, удостоверяющие право на дом. Достаточно того, чтобы сведения о недвижимости содержались в специальной книге. Ее еще называют подомовой. Проще говоря, если вы являетесь владельцем пустующего дома, то достаточно будет заключить обычный договор купли-продажи, зарегистрированного в местном органе власти. Оформление правоудостоверяющих документов ляжет уже на плечи нового владельца. А как же одна базовая? Действительно, документ предусматривает возможность продажи домов всего за одну базовую величину. Но и тут есть несколько моментов. Как и ранее, если жилье находится в коммунальной собственности, исполкомы смогут продавать бесхозное жилье на аукционах. Изначально цена будет рыночной, однако может поэтапно снижаться до тех самых 29 рублей. Интересно, что областные исполнительные комитеты могут сами определить те населенные пункты, где недвижимость изначально будут продавать за одну базовую. Пока, правда, о таких регионах неизвестно. Информация размещена на сайтах местных исполкомов. Однако вкладка с нужной информацией не всегда очевидна, так что не сдавайтесь! А к 1 января 2023 года планируется создать общедоступный Единый реестр пустующих домов, где информация будет обновляться в режиме реального времени. Пока же ищем по старинке. Если жилье признают коммунальной собственностью, то будем выставлять его на аукцион по новому указу. Пока сложно сказать, когда это произойдет. В местной прессе будет опубликовано сообщение, и тогда можно заявляться на аукцион. Несмотря на кажущуюся привлекательность, инициатива не вызвала серьезного общественного обсуждения. Скажем, в профильной теме Национального правового интернет-портала было высказано только 8 мнений. Всего в Беларуси насчитывается около 7 тысяч пустующих домов.

**«Комсомольская правда»**

ЗДАРЭННІ

# ПОШЕЛ В МАГАЗИН И ЗАБЛУДИЛСЯ

**В Витебском районе мужчина пошел в магазин через лес и заблудился.**

13 августа в 7.47 в центр оперативного управления Витебского городского отдела по чрезвычайным ситуациям от женщины поступило сообщение о том, что ее супруг заблудился в лесу возле садового товарищества «Поддубье» Витебского района.

К месту сообщения незамедлительно выехали подразделения пожарного аварийно-спасательного отряда «Витязь» и Витебского городского отдела по чрезвычайным ситуациям.«Как рассказала супруга потерявшегося мужчины, ее муж, 1955 года рождения, вечером 12 августа отправился в магазин, который расположен в соседней деревне. Дорога к нему вела через лес, а утром, не обнаружив супруга дома, она вызвала спасателей», - пояснили в МЧС. «Чтобы не тратить время на поиски дороги, мы заехали в деревню, где проживал мужчина, и взяли одного из местных жителей с собой, чтобы он показал путь через лес, - рассказал командир отделения Роман Кудрявцев. - Уже в лесу я и мои коллеги рассредоточились и звали мужчину, но никто не отзывался. На квадроцикле мы поехали вглубь леса, а дальше пошли пешком. Приблизительно через 1,5 км мы увидели лежащего на земле человека. Мы подняли его, дали воды и на квадроцикле вывезли из леса». Мужчину отвезли домой. В медицинской помощи он не нуждался.

**"Белта"**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

# ДВА ГАДЫ КАЛОНІІ

**Бытавая сварка скончылася для жыхара Віцебскага раёна крымінальным тэрмінам.**

Красавіцкім днём у адным з аграгарадкоў раёна ў прыватным доме выпівала кампанія. Адзін з удзельнікаў застолля крыху не разлічыў уласныя сілы і перабраў з моцнымі напоямі і пачаў высвятляць адносіны з уласным сынам. Дробная сварка перайшла ў грандыёзны скандал, для яго ўрэгулявання былі выкліканы супрацоўнікі органаў унутраных спраў. Аднак сямейнага скандаліста гэты факт разззлаваў яшчэ больш. Мужчына, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення, пачаў перашкаджаць законнай дзейнасці міліцыянтаў, якія выконвалі свае службовыя абавязкі. Пры гэтым міліцыянт-кіроўца аператыўна-дзяжурнай службы АУС Віцебскага райвыканкама быў апрануты ў форменае абмундзіраванне. Разам з ім прыбыў і старэйшы участковы інспектар аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі ў складзе адмысловай групы хуткага рэагавання. Мужчына не падпарадкаваўся законным патрабаванням праваахоўніка аб спыненні хуліганскіх дзеянняў. У момант затрымання за ўчыненае адміністрацыйнае правапарушэнне абвінавачваны ўзяў у рукі нож, размахваў ім і выказваў праваахоўніку славесныя пагрозы забойствам і прымяненнем гвалту. Дапытаны ў судовым пасяджэнні падсудны прызнаў сябе вінаватым у поўным аб'ёме. Горадэбашыр пацвердзіў, што ў дзень здзяйснення злачынства ўжываў шмат спіртнога і тое, што адбывалася не памятае, аднак цалкам згодны са сведчаннямі пацярпелага і сведкі, так як агаворваць яго ў гэтых асобаў падставы няма . Суд Віцебскага раёна з улікам пазіцыі дзяржаўнага абвінаваўцы прызнаў мужчыну вінаватым у пагрозе ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў з мэтай перашкодзіць яго законнай дзейнасці і прызначыў яму пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 2 гады з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму. Прысуд суда ўступіў у законную сілу.

**Ян Сведка**

## АБ'ЯВА

*Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".*

*Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# АД ІНФАРМАЦЫЙНАЙ АЎТАКРАТЫІ ДА САВЕЦКІХ МЕТОДЫК

**Мы на вайне. Пакуль яшчэ гібрыднай. «Вайна вядзецца супраць часу, супраць свету, якім ён цяпер стаў, за вяртанне ў шчаслівыя семідзясятыя».**




«Ён занадта няўтульны, гэты празрысты свет, — і задача палягае ў тым, каб выправіць яго недахопы. Калі ўжо не глабальна, то хоць бы ў межах асобна ўзятай краіны», — тлумачыць расійскі публіцыст Іван Давыдаў.

Мы на вайне. Мы трымаем абарону. На нашым баявым штандары напісаны простыя і зразумелы сваім і ворагам дэвіз: «Нашы каштоўнасці не ўпісваюцца ў сістэму глабалісцкай будовы свету». Ён служыць аналагам надпісу-папярэджання на апорах высакавольтных ліній: «Не залазіць, заб'е!»

Нас спрабуюць узяць у атачэнне. Ці тое яшчэ будзе.

**Мы — гэта хто?**

Паводле гісторыка Аляксандра Ахіезера, «грамадства, асоба адказваюць на крызісную сітуацыю, на небяспеку, ці праз выпрацоўку інавацыйных ідэй, якія адкрываюць новыя творчыя магчымасці больш эфектыўных рашэнняў, ці на аснове вяртання да старых каштоўнасцяў, якія апраўдалі сябе ў мінулым».

Глыбокая думка. Але, як і ўсе падобныя думкі, яна ўяўляецца няпоўнай. Наш паўсядзённы вопыт падказвае трэці шлях — ён вядзе да старых каштоўнасцяў, якія ў мінулым сябе НЕ АПРАЎДАЛІ.

«Жыццё кароткае», — сцвярджаў Гіпакрат. Ён быў лекарам, і таму ў хуткаплынным часе разбіраўся прафесійна. 18 жніўня ва ўсіх плакальшчыкаў па СССР з'яўляецца нагода адзначыць 30-годдзе няўдалага путчу, які ўбіў апошні цвік у вечка труны «Саюза непарушнага рэспублік свабодных».

Найлепшай ілюстрацыі закона ненаўмысных наступстваў, мабыць, і не знайсці. Путчысты хацелі, як лепш... але і Гарбачоў ні сабе, ні краіне зла не жадаў. Ды і хто з нас, калі слухаў маладога генеральнага сакратара ў 1985 годзе, не пагадзіўся б з тым, што «так жыць нельга»?

«Пераменаў! Мы хочам пераменаў!» — спяваў Віктар Цой. І тут самы час разабрацца з займеннікам першай асобы множнага ліку «МЫ». Мы — гэта хто? Адважуся выказаць здагадку, што не толькі стомленыя ад дэфіцыту рабочыя і калгасніцы разам з праслойкай у выглядзе працоўнай інтэлігенцыі, але і большасць прадстаўнікоў так званай наменклатуры.

Айчынная гісторыя вучыць: абавязковай умовай для надыходу пераменаў з'яўляецца згода («кансенсус» — паводле тэрміналогіі Гарбачова) паміж кіраўнікамі і кіраванымі ў пытанні ўсведамлення, што далей «так жыць нельга». Адсутнасцю ўсеагульнай згоды і адрозніваюцца цяперашнія падзеі ад гарбачоўскай перабудовы. На жаль, але сёння жыць даводзіцца ва ўмовах, калі нізы не хочуць жыць па-старому, але вярхі па-старому кіраваць яшчэ неяк могуць.

**У 45 разоў у Расіі і толькі ў 5 разоў у Германіі**

Сучасныя аўтарытарныя рэжымы для ўтрымання ўлады ўсё часцей адмаўляюцца ад страху і рэпрэсій на карысць маніпуляцыі інфармацыяй. На думку расійскага эканаміста Сяргея Гурыева, аўтара тэрміна «інфармацыйная аўтакратыя», гэтаму спрыялі тры прычыны:

- Распад СССР прымусіў заходнія краіны адмовіцца ад падтрымкі рэпрэсіўных рэжымаў, бо немагчыма стала растлумачыць сваім народам, чаму гэтыя «сыны сучкі» па-ранейшаму застаюцца «нашымі».
- Сучасныя тэхналогіі не дазваляюць хаваць масавыя рэпрэсіі і забойствы.
- Эканамічнае развіццё немагчыма без доступу да інтэрнэту, міжнароднага гандлю і замежных інвестыцый.

Існуе прамая карэляцыя: чым больш дыктатар звяртаўся да рэпрэсій, тым меншая верагоднасць, што ён зможа мірна пакінуць сваю пасаду. Быць дыктатарам старога тыпу стала небяспечна.

На што накіроўваюць сваю энергію вярхі ва ўмовах інфармацыйнай аўтакратыі? У першую чаргу, на доказ кампетэнтнасці лідара. Сучасны лідар — гэта не проста швец і жнец, і на дуду ігрэц. Гэтага недастаткова. Сучасны лідар у вачах большасці павінен быць па-за канкурэнцыяй ва ўсіх відах дзейнасці. Калі ён швец, то найлепшы ў свеце швец і г. д.

Зразумела, што такая ўніверсальнасць ні да чаго добрага не даводзіць. Аднак ахвочых падставіць плячо ў няпростай справе маніпулявання хапае. Дадзім слова Сяргею Гурыеву: «Даследчыкі адзначылі прамую залежнасць паміж тым, што ў аўтарытарных краінах прадстаўнікі эліты больш крытычныя да лідара, чым асноўная маса насельніцтва, але дабрабыт у прадстаўнікоў элітнага саслоўя ў такой краіне вышэйшы, чым у больш дэмакратычных краінах, дзе эліты больш падтрымліваюць лідара».

Гэта ключавы момант для падтрымання стабільнасці. Таму не варта здзіўляцца, што заробак, скажам, міністра фінансаў Расіі вышэй за сярэдні заробак па краіне ў 45 разоў, а ў яго нямецкага калегі — толькі ў 5 разоў.

Пра карупцыйную надбаўку да афіцыйнага акладу я прамаўчу. Але тое, што жонкі расійскіх чыноўнікаў рэгулярна аказваюцца надзвычай таленавітымі бізнесоўцамі і зарабляюць нашмат больш за сваіх мужоў, ні для каго не сакрэт. Прыгадаем жонку мэра Масквы Юрыя Лужкова мільярдэршу Алену Батурыну.

Стабільнасць, хай нават ва ўмовах інфармацыйнай аўтакратыі, мае патрэбу ў матэрыяльных рэсурсах. Іншая справа, што размяркоўваюцца яны з вялікім перакосам у бок кіраўнікоў. Нездарма ж даволі вядомы расійскі «вячэрні» тэлевядоўца Салаўёў набыў вілу на беразе возера Кома ў Італіі. Тры паверхі. Фасад у сем вокнаў. Прыгожа жыць не забароніш — тым больш за свае крэўныя.

**Плынь бягучай сучаснасці**

У рэжыме інфармацыйнага аўтарытарызму, імітуючы дэмакратыю, беларуская мадэль праіснавала да 9 жніўня 2021 года. А далей здарыўся адкат да савецкіх і дасавецкіх метадаў падтрымання стабільнасці. У нашага таварыша па саюзным няшчасці ідзе аналагічны працэс, і трыгеру ў выглядзе «каляровай рэвалюцыі» для гэтага не спатрэбілася.

Сама логіка развіцця (дэградацыі) палітычных сістэм, якія ваюць супраць часу і не жадаюць упісвацца ў сучаснасць, вяртае іх да сілавых метадаў падтрымання стабільнасці. «Старэйшаму брату» прасцей. Па-першае, на дадзеным этапе ён не адчувае недахопу ў матэрыяльных рэсурсах для забеспячэння ўмоўных суадносін 45 да 1 для ўмоўнага міністра фінансаў. Дзякуй нафтавай, газавай і іншым відам прыроднай рэнты.

Па-другое, у параўнанні з Беларуссю ў Расіі прынцыпова іншыя суадносіны плошчы з працягласцю мяжы з «поўнымі мярзотнікамі».

Суседзяў не выбіраюць. Суседзі — ад Бога. Донару еўрапейскай стабільнасці ў гэтым сэнсе не пашанцавала. Вось і даводзіцца першым прымаць удар на сябе.

Але ў вяртання да жорсткага кіравання, як і ў кожнага медалю, маецца адваротны бок. Апішу яго словамі галоўнага архітэктара Беларускай мадэлі: «Зразумейце, што пры ўсёй жорсткасці курсу гэтая жорсткасць павінна быць звернутая на тых, на каго трэба. Мы не павінны задушыць ініцыятыву людзей, трэба падтрымліваць ініцыятыўных і сумленных людзей як у бізнесе, так і ў палітыцы».

Адасабляць сумленных людзей ад несумленных у палітыцы проста: сярод нязгодных з цяперашнім курсам сумленных не можа быць наогул. Прынамсі, за 27 гадоў ніводзін такі не выяўлены.

З бізнесам складаней. Мэта любога бізнесоўца — атрыманне прыбытку, гэта значыць, справа выключна прыватная. Вайна, якая вядзецца сярод родных бяроз і асін супраць часу, — гэта вайна за каланізацыю прыватнага грамадскім. Гэта выключна наша лакальная вайна. У свеце ідзе супрацьлеглы працэс: прыватнае каланізуе грамадскае…

Такая вось праблема... Калі б не падтрымка з боку таварыша па саюзным няшчасці, то ў сваім цяперашнім выглядзе Беларуская мадэль і году б не працягнула. Плынь бягучай сучаснасці змыла б яе.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.by**

КАНСТЫТУЦЫЯ

# «НЕ ПОНИМАЮТ». ЛУКАШЕНКО ПЫТАЕТСЯ ОБЪЯСНИТЬ, ЗАЧЕМ НУЖНА НОВАЯ КОНСТИТУЦИЯ

**Вручая награды силовикам 20 августа, Александр Лукашенко признал: некоторые военнослужащие «не понимают: ну зачем президенту этот референдум, ну зачем эта конституция». И попытался растолковать. Похоже, однако, что он сам еще не определился до конца с новой конструкцией политической системы и своим местом в ней.**

Обосновывая необходимость нового основного закона, Лукашенко в очередной раз напомнил о требованиях оппонентов: «Во-первых, мы пообещали. Во-вторых, вы же помните их лозунг: "Перамены, перамены, перамены". И мы сказали: да, нужны перемены».

**Улица хотела совсем других перемен**

На первый взгляд, вождь политического режима рассуждает прогрессивно. Типа: мы идем навстречу оппонентам. На самом деле это подмена понятий. Те, кто вышел на улицы в августе 2020 года, хотели совсем других перемен — честных выборов, нового президента, смены самого режима.

Ничем этим и не пахнет. Лукашенко остается у власти, при том что многие в стране и за рубежом считают выборы-2020 сфальсифицированными. Более того, режим стал намного более жестким, поставил репрессии во главу угла.

Новая же конституция, судя по информации о предложениях конституционной комиссии и неофициально обнародованному проекту, не изменит сути созданной Лукашенко авторитарной системы.

Да, президент будет править максимум два срока, утратит право издавать декреты, станет согласовывать некоторые кадровые назначения. Появится уполномоченный по правам человека.

Но и без декретов можно гнуть свою линию, если парламент остается карманным, правительство — группой технических исполнителей, суды — подмятыми под вертикаль. А в омбудсмены легко поставить своего человека.

В речах последнего времени Лукашенко не скрывает, что второй президент будет из его окружения и вообще будет сделано все, чтобы к власти не пришли оппоненты режима. То есть менять систему он не собирается.

Так что ни о каких уступках сторонникам настоящих перемен и речи нет.

**Сталинизм не слаще брежневщины**

Лукашенко также подчеркивает, что не хочет повторения застоя типа того, в который погрузился Советский Союз, когда им правил Леонид Брежнев.

Однако по факту именно в таком застое Беларусь находится уже больше десятилетия: ВВП почти не растет, средняя зарплата в долларовом эквиваленте недалеко ушла от показателя 2010 года. Тогда 500 долларов были внушительной по постсоветским меркам суммой, теперь покупательная способность такой зарплаты намного ниже.

И никакой убедительной программы экономического развития у нынешнего руководства страны нет. Само слово «реформы» всегда выводило Лукашенко из равновесия. В правительстве, зная, что он ненавидит «рыночную болтовню», такую терминологию давно боятся употреблять.

*(працяг на стар. 4)*

## КАНСТЫТУЦЫЯ

*(пачатак на стар. 3)*

Упоминая о протестах, вождь режима особенно гневался на поддержавших лозунг перемен айтишников, бизнесменов: мол, неблагодарные, чего им не хватало, с жиру бесятся. Подход к этим экономическим группам ужесточается. СМИ сообщают, что готовятся новые, гораздо более суровые правила и для индивидуальных предпринимателей.

При этом остается массив неэффективных госпредприятий, поддержка которых съедает уйму бюджетных денег. Очевидно, что ради самосохранения режим блокирует давно назревшие структурные реформы, системную трансформацию экономики. Что это, если не застой?

При этом стоит заметить, что в эпоху Брежнева коммунистический режим стал менее кровожадным. Белорусский же режим сейчас так люто зачищает страну от «врагов», что у многих это ассоциируется с 1937 годом — пиком сталинских репрессий. Сталинизм же ничуть не слаще брежневщины.

**Удержит ли ситуацию второй президент?**

Объясняя силовикам свои замыслы, Лукашенко подробно остановился на роли Всебелорусского народного собрания, которому в новой конституции хотят отвести особое место.

Старшее поколение правящей элиты, по замыслу Лукашенко, должно через ВНС «отойти на какие-то запасные позиции (военные меня поймут), чтобы видеть, что происходит в стране. И если кто-то дрогнет, мужики, мы с этих позиций должны подключиться».

Как считает специалист в области конституционного права Михаил Пастухов, в проекте нового основного закона «усматривается стремление поставить ВНС выше президента и контролировать его деятельность».

И вот здесь таится опасность для системы, которую Лукашенко за 26 лет правления сильно заточил под себя, сделал сугубо персоналистской.

С одной стороны, он подчеркивает, что «надо делать нормальную конституцию. Без всякого двоевластия. Чтобы президент был президентом, главой государства».

С другой стороны, у него раз за разом проскальзывают нотки априорного недоверия ко второму президенту. Лукашенко не единожды заявлял, что такие сильные полномочия передавать преемнику нельзя: а вдруг тот ими неправильно распорядится?

На вручении наград 20 августа Лукашенко поделился с силовиками тревогой: «Что с вами будет? Ладно, пришел какой-то президент (все хороши, когда идут), власть портит людей, это правда. Испортился и начал крушить, ломать. А что будет с вами, людьми?»

Можно предположить, что здесь сквозит тревога и о собственном будущем, гарантиях безопасности первому президенту в случае его ухода с поста.

Также Лукашенко вспомнил об украинских событиях 2014 года: «Или предательство по типу Украины, когда президент предал своих ребят, бросил и улетел. Вот тогда Всебелорусское народное собрание должно собраться и принять все решения».

**Мучительная миссия**

Как видим, вождь режима явно опасается, что его преемник на посту главы государства может не удержать ситуацию. Поэтому если Лукашенко после принятия новой конституции уйдет-таки на руководство ВНС, то велика вероятность, что он станет чересчур жестко опекать, поучать, одергивать преемника, пытаться в каких-то ситуациях перетянуть властное одеяло на себя.

А это — шаги к двоевластию, конфликту между группировками правящего класса. Лукашенко, наверное, интуитивно чувствует уязвимость предполагаемой политической конструкции, поэтому колеблется по поводу характера конституционных изменений и транзита власти.

20 августа он уверял силовиков, что не собирается до смерти держать власть в стране: «Да глупость полная. Я, если уж по-человечески, просто хочу хоть несколько лет пожить нормальной жизнью».

Однако мощное властолюбие и неуверенность в способности преемника обеспечить гарантии безопасности, скорее всего, будут подогревать мысль, что лучше всего пока оставаться в своем кресле — как минимум до 2025 года, когда закончится нынешняя каденция. А там видно будет.

Лукашенко понимает, что не вечен, терзается гамлетовским для него вопросом транзита власти, что, вероятно, толкает к прокрастинации.

Но график определен, уже на днях проект конституции ляжет на стол Лукашенко. Потом должно состояться заседание конституционной комиссии с его участием, после чего документ вынесут на «всенародное обсуждение».

Так что приходит время определять конкретику нововведений. Понятно, что «всенародное обсуждение» — это лишь имитация, решать будет глава политического режима. И это для него мучительная миссия.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**
**naviny.online**

## СУСВЕТ

# ПЕРАМОГА ТАЛІБАЎ МОЖА ПАСКОРЫЦЬ ПЕРАМЕНЫ Ў БЕЛАРУСІ

**Расейскія прапагандысты і мэдыя радуюцца паразе ЗША ў Афганістане. Аднак, падаецца, злараднасьць цяпер не да месца. І на тое ёсьць некалькі прычынаў.**

Калі Масква і Захад будуць вымушаныя шукаць паразуменьня дзеля нэўтралізацыі талібаў, рэжым Лукашэнкі можа стаць перашкодай.

Сапраўды, Злучаным Штатам, пачынаючы з 2001 году, калі міжнародная кааліцыя на чале з амэрыканцамі ўвайшла ў Афганістан, не ўдалося напоўніцу перамагчы талібаў, усталяваць у краіне мір і стабільнасьць, дапамагчы ў пабудове эфэктыўных дзяржаўных інстытутаў.

Але справа ў тым, што Злучаным Штатам давялося разблытваць вялікі клубок, ліквідоўваць злаякасны ісламісцкі тэрарыстычны ачаг, развярушаны ў свой час СССР. У 1978 годзе ў Афганістане перамагла Красавіцкая рэвалюцыя, пасьля якой новыя ўлады з дапамогай Савецкага Саюзу пачалі будаваць сацыялізм. Радыкальныя сацыялістычныя рэформы спрычыніліся да грамадзянскай вайны.

Каб дапамагчы сваім ідэйным саюзьнікам, СССР у 1979 годзе ўвёў у Афганістан войскі. Дзесяць гадоў Савецкі Саюз ваяваў з талібамі, урэшце тую вайну прайграў, да ўлады прыйшлі талібы, якія ператварылі краіну ў тэрарыстычны ачаг, дзе атабарыўся тагачасны тэрарыст № 1 Усама бін Ладэн. Імі былі ўчыненыя тэракты ў ЗША 11 верасьня 2001 году, і амэрыканцам давялося рэагаваць.

Дарэчы, вайсковая апэрацыя ў Афганістане, ажыцьцёўленая кааліцыяй на чале з ЗША, была праведзена на аснове рашэньня Рады бясьпекі ААН. У гэтым прынцыповае адрозьненьне ад вайсковай апэрацыі СССР, якую асудзіла большасьць краін сьвету ў рамках Генэральнай асамблеі ААН.

Тым ня менш дапамагчы афганцам пабудаваць жыцьцяздольныя сацыяльныя і дзяржаўныя інстытуты не ўдалося ні СССР, ні ЗША. Талібы зноў захапілі Афганістан пасьля выводу амэрыканскіх войскаў. Там можа ўзьнікнуць аналяг «Ісламскай дзяржавы» ці ІГІЛа.

Расейскія мэдыя дарма злараднічаюць яшчэ і з той прычыны, што перамога талібаў у Афганістане — гэта вялікая праблема для Расеі. Бо цяпер пад пагрозай апынулася ўся Цэнтральная Азія. Гэта сфэра ўплыву РФ. Казахстан, Кіргізстан, Таджыкістан — чальцы АДКБ, у выпадку абвастрэньня сытуацыі Расеі давядзецца іх абараняць.

Якія наступствы гэтага афганскага катаклізму для Беларусі?

Найперш, ёсьць рызыка, што афганскія ўцекачы могуць зьявіцца на мяжы Беларусі з Латвіяй, Літвой, Польшчай. Па той самай схеме, па якой там зьявіліся ірацкія мігранты. А ахвотных уцякаць з Афганістану цяпер вельмі шмат. Міграцкі крызіс вакол Беларусі можа абвастрыцца.

Даволі папулярная думка, што на тле падзей у Афганістане Захад забудзе пра беларускі крызіс. Гэта магчыма. Але, падаецца, Лукашэнка ня дасьць гэтага зрабіць. І да таго ж, калі казаць пра ЗША, то бюракратычная машына ў справе ўвядзеньня санкцый запушчана, і ня думаю, што на яе неяк паўплываюць падзеі ў Афганістане.

І яшчэ. Прыход да ўлады талібаў ня выгадны ні Расеі, са згаданых прычын, ні ЗША, ні ЭЗ (пагроза новага міграцкага крызісу маштабу 2015 году), ні Кітаю. Можа зьявіцца глеба для пачатку супрацоўніцтва Расеі і Захаду перад абліччам новай пагрозы распаўсюду радыкальнага ісламскага тэрарызму. Як тое было ў 2000-х гадах. Гэта значыць, што ступень канфрантацыі паміж РФ, з аднаго боку, і ЗША і ЭЗ, з другога боку, можа панізіцца.

А вось рэжым Лукашэнкі дзеля ўласнага выжываньня якраз робіць стаўку на гэтую канфрантацыю, усяляк абвастрае яе. Яму ўдалося ўпісаць захаваньне сваёй улады ў канфлікт Расеі і Захаду, зрабіцца важным, неабходным для РФ гульцом у гэтым супрацьстаяньні.

І вось цяпер, калі Масква і Захад будуць вымушаныя шукаць паразуменьня дзеля нэўтралізацыі талібаў, рэжым Лукашэнкі можа стаць перашкодай. Такое разьвіцьцё падзей можа паскорыць перамены ў Беларусі.

**Валер Карбалевіч**
**www.svaboda.org**

## ЦАРКВА

# ЯК БПЦ ЗАМЕСТ БОГА СЛУЖЫЦЬ АСОБЕ

**Царква ў Беларусі (асабліва праваслаўная) заўжды была цесна пераплецена зь дзяржавай, але з пачаткам падаўленьня пратэстаў у 2020 годзе зьмяніўся характар іх узаемадзеяньня. Калі раней царква магла ўплываць на законы і ўвогуле мела рэальную ўладу, цяпер яна пераўтварылася ў служку нават не дзяржавы, а асабіста Аляксандра Лукашэнкі.**

Раней як было? Царква прасоўвала забарону абортаў, і дзяржава падпарадкоўвалася — ускладняла жанчынам доступ да мэдычнай дапамогі. Царква была супраць закону аб супрацьдзеяньні хатняму гвалту, і гэта паспрыяла таму, што закон усё ж не прынялі. Сьвятароў, як і высокапастаўленых чыноўнікаў, пускалі ў рэанімацыі, хоць родным людзей, якіх там ратавалі, маглі забараняць наведваньні. Сьвятары былі элітай, якая мела рэальны ўплыў на дзяржаўную палітыку і грамадзтва ў цэлым.

Але што мы бачым цяпер? Сьвятары ператварыліся ў служак Лукашэнкі. Яны больш не дыктуюць, якія прымаць законы і як увогуле зьмяняць краіну. Цяпер яны падпарадкоўваюцца жаданьням выключна аднаго чалавека. І гэтага чалавека завуць не Ісус.

Як і сьвецкіх людзей, сьвятароў перасьледавалі за пратэсты супраць фальсыфікацыі выбараў і за асуджэньне дзяржаўнага гвалту. Ды што там шараговыя сьвятары — нават галаву БПЦ мітрапаліта Паўла замянілі на больш надзейнага функцыянэра, які не асуджае гвалт і катаваньні. А па словах архіяпіскапа Арцемія, сьвятарам забаранілі нават маліцца за зьняволеных.

І вось цяпер новы крок — у школы прыйдуць сьвятары, і яны там будуць, як кажа протаярэй Фёдар Поўны, не прапаведаваць, а ачалавечваць. «Радуюся таму, што школы зноў будуць выхоўваць асобаў. Гэта адзін з засвоеных урокаў жніўня 2020», — кажа сьвятар.

Лепш бы яны прапаведавалі.

Толькі ўявіце — людзі, якія нібыта служаць Богу і мусяць адназначна выступаць супраць гвалту і катаваньняў, лічаць, што ачалавечваць пасьля мінулага жніўня трэба звычайных шкаляроў. У краіне, дзе пратэстоўцы пасьля году дзяржаўнага тэрору так і не перайшлі да ўзброенага супраціву, дзе катам падставілі абедзьве шчакі і ўвогуле ўсе свае целы, царква зьбіраецца вучыць, што трэба быць яшчэ лагаднейшымі.

На фоне таго, што ў краіне больш за 600 чалавек, афіцыйна прызнаных палітзьняволенымі, і сярод іх ёсьць і непаўналетнія, і людзі з інваліднасьцю, і шматдзетныя бацькі, сьвятарам бы абвяшчаць масавыя малебны за бязьвінна зьняволеных і за пакутнікаў.

І калі ім і варта хадзіць некуды з урокамі ачалавечваньня, дык у міліцэйскія і вайсковыя вучэльні, у МУС, на Акрэсьціна і «Валадарку», у сьледчыя камітэты і падатковыя інспэкцыі. Да тых, хто выбівае дзьверы ў кватэрах журналістаў, прыходзячы з вобшукам а сёмай раніцы. Да тых, хто крадзе пры гэтых вобшуках грошы. Хто хлусіць родным затрыманых, што ня ведае, дзе яны. Хто адмаўляе зьняволеным у мэдычнай дапамозе і робіць так, каб дзеці аказваліся ў дзіцячых дамах.

Вось каго трэба спрабаваць ачалавечваць, хоць і ня варта асабліва спадзявацца на посьпех. А перад звычайнымі дзецьмі ў звычайных школах сьвятарам трэба доўга і са сьлязьмі выбачацца. Царква нічога не зрабіла для таго, каб гвалту ў Беларусі стала меней. Тое, што дзеці цяпер вымушаны жыць ва ўмовах дзяржаўнага тэрору — гэта і яе віна.

**Наста Захарэвіч**
**www.svaboda.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 29.08.2021 у 15.30
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.